ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.28 (3148) ● ● ЧАЦВЕР, 30 ліпеня, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



**Рэха Грунвальда**
У Дудутках рыцары згадвалі адну з самых вялікіх бітваў сярэднявечча **Стар. 3**



**Жывая памяць**
Анатоль Грамыка высока ацаніў экспазіцыю, прысвечаную 100-гадоваму юбілею з дня нараджэння знакамітага дыпламата **Стар. 3**



**Прыцягненне родных мясцін**
У вёсцы Перабродзе Міёрскага раёна Віцебшчыны прайшоў фестываль беларускай песні і народнай творчасці **Стар. 4**

# Добрыя суседзі

## Дэлегацыі гарадоў-пабрацімаў з Польшчы пабывалі ў Маладзечне на Днях польскай культуры

Надзея Радзівон

У святочных мерапрыемствах прынялі ўдзел прадстаўнікі Кутнаўскага і Сакульскага паветаў, горада Дамброва, з якімі ў Маладзечанскага раёна ўсталяваліся цесныя культурныя сувязі. На свята прыязджалі і прадстаўнікі "Саюза палякаў на Беларусі" з іншых раёнаў Мінскай вобласці.

Яны наведалі філіял рэспубліканскага музея імя Янкі Купалы ў вёсцы Яхімоўшчына, прысутнічалі на богаслужэнні ў касцёле Святога Іосіфа, на ўрачыстым канцэрце "Сяброўства не мае межаў", фестывалі польскай песні і паэзіі, на спектаклі "Не судзімы будзеце..." па п'есе польскага драматурга Януша Главацкага ў Мінскім абласным драматычным тэатры.

У Маладзечне былі адкрыты выставы польскай літаратуры, карцін мастака Эдуарда Мацюшонка. На адной з экспазіцый прадстаўлены польскія манеты, якія знаходзіліся ў звароце на тэрыторыі Беларусі ў 1919–1939 гадах. Прайшоў і круглы стол на тэму "Роля польскай культуры ў фарміраванні духоўна-маральных каштоўнасцяў і культурных традыцый беларускага народа".

Варта адзначыць, што Маладзечанскі раён стаў радзімай многіх вядомых людзей, якія праславілі як Беларусь, так і Польшчу. Тут, у прыватнасці, жылі прадстаўнікі славутых родаў Агінскіх, Сапегаў, у тутэйшых мясцінах нарадзіўся беларускі песняр Янка Купала, які, дарэчы, пісаў вершы і на польскай мове.

Дні польскай культуры ўжо сталі традыцыйнымі, яны праводзяцца чацвёрты год запар. У 2006-м іх сталіцай былі Стоўбцы, у 2007-м — Валожын, у 2008-м — Нясвіж. Фестывалі прайшлі па ініцыятыве грамадскага аб'яднання "Саюз палякаў на Беларусі" пры падтрымцы мясцовых органаў улады, мелі поспех у гараджан і прыезджых гасцей, спрыялі развіццю супрацоўніцтва і ўмацаванню сяброўства паміж беларускім і польскім народамі.

БЕЛТА

Ганна Аўраменка — удзельніца свята



БЕЛТА

Так лёгка танцаваць пад гукі паланеза...

**ВЕСТКІ**

## З новым Домам!

**Аб'ём гандлю паміж Беларуссю і Арменіяй у хуткім часе значна ўзрасце**

Гэтаму паспрыяе адкрыццё гандлёвага дома беларускіх вытворцаў у Ерэване. Нядаўна ў сталіцы Арменіі быў падпісаны і адпаведны кантракт. Першапачаткова беларусы планавалі павялічыць экспарт у гэтую краіну прадуктаў харчавання, а цяпер ёсць магчымасць прадаваць нават тэхніку: плошчы для гандлю ў Ерэване выдзяляюцца немалыя. Як стала вядома, іх пад будучы Цэнтр развіцця гандлёвых сувязяў — так цяпер яго называюць партнёры — вылучае буйнейшы армянскі мультыканцэрн.

Якая ж прадукцыя будзе пастаўляцца беларускімі вытворцамі ў Арменію і што атрымае з гэтай краіны Беларусь? Мяркуецца, што беларускія лікёрагарэлачныя заводы будуць купляць у армянскіх партнёраў добра вядомыя ў свеце каньячныя спірты, узоры якіх цяпер атрымоўваюць беларускія сертыфікаты. Гэтыя ж прадпрыемствы склалі кантракты на пастаўку ў Арменію сваіх вырабаў на паўтара мільёна долараў. Уступілі ў перамовы і беларускія кандытары: яны гатовы пастаўляць у Арменію да 60 тон кандытарскіх вырабаў і 80 тон глазуры кожны месяц. А яшчэ ў выніку ўжо дасягнутых дамоўленасцяў у Беларусь будуць экспартавацца кансерваваныя гародніна і садавіна, сухафрукты і іншыя тавары.

# Вяртанне на зямлю маладосці

## Ганаровымі гасцямі ў Беларусі былі ветэраны Вялікай Айчыннай вайны з Новасібірска

Напачатку была ідэя: у новасібірскім Беларускім культурна-асветніцкім цэнтры імя святой Ефрасінні Полацкай, якім кіруе беларус Іван Панасюк, вырашылі як мага больш даведацца пра ветэранаў, якія ўдзельнічалі ў баявых дзеяннях на тэрыторыі Беларусі. Сярод іх былі тыя, хто вельмі хацеў на свята Вызвалення пабываць у мясцінах баявой маладосці. І як жа не дапамагчы ім! Рыхтаваліся доўга, шукалі спонсараў. Урэшце дзякуючы намаганням многіх людзей сібірскія ветэраны-вызваліцелі Беларусі напярэдадні свята прыбылі ў Мінск. Трое сутак у цягніку вытрымалі Герой Савецкага Саюза Дзмітрый Аляксеевіч Бакураў з жонкай Кацярынай Міхайлаўнай, Ніна Аляксееўна Факанава і Сафія Цімафееўна Домант (Якуцёнак у дзявоцтве).

Гэты праект рэалізоўваўся новасібірскай суполкай сумесна з адміністрацыяй Заводскага раёна Мінска — іх сяброўству ўжо шэсць гадоў. Праграма візіту ўключала сустрэчы ветэранаў з моладдзю, экскурсію на завод колавых цягачоў, удзел ва Урачыстым сходзе і прысутнасць на канцэрце майстроў мастацтваў, прысвечаных 65-годдзю вызвалення Беларусі, у Палацы Рэспублікі. Былі госці на святочным парадзе і тэатралізаваным шэсці, наведвалі шэраг іншых мерапрыемстваў, для іх была арганізавана экскурсія па Мінску.



КАНСТАНЦІН ДРОБАЎ

Ветэранаў з Навасібірска вітаюць у Мінску

Падчас сустрэчы ў Адміністрацыі Заводскага раёна гасцей цёпла віталі. Самым хвалюючым момантам было ўручэнне ветэранам памятных юбілейных медалёў "65 гадоў вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў".

Хто ж яны, нашы госці? Дзмітрый Бакураў удзельнічаў у баях на Дняпры, вызваляў Беларусь. Пайшоў на фронт у 18 гадоў, ваяваў з красавіка 42-га па 9 мая 45-га, ужо ў 43-м быў капітанам, камандзірам падраздзялення. Прымаў удзел у вызваленні Курскай, Арлоўскай абласцей, Беларусі, Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі. Званне Героя Савецкага Саюза атрымаў у 19 гадоў. Дарачы ад імя ветэранаў-сібіракоў сімволіку горада Новасібірска, ён сказаў, што многія сібіракі, якія змагаліся ў Беларусі, праявілі масавы гераізм, 30 новасібірцаў атрымалі высокае званне Героя на беларускай зямлі. Змагаліся яны разам з беларускім народам, партызанамі. → Стар. 2

**ПАСЛЯ З'ЕЗДА**

## У ліку гасцей і дэлегатаў Пятага з'езда беларусаў свету, якія нядаўна прайшоў у Мінску, былі прадстаўнікі больш чым 20 краін. Сёння — слова двоім з іх: Алегу Рудакову з Расіі і Джыму Дынглі з Вялікабрытаніі.


ІВАН ЖДАНОВІЧ

Прадстаўнікам Іркутскага таварыства беларусаў ёсць што расказаць землякам

# Трынаццаць год са ста

Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага было створана ў маі 1996 года на I з'ездзе беларусаў нашай вобласці. Там былі зацверджаны нашы назва, эмблема, статут, выбраны кіруючыя органы. А сёння ў нас 11 аддзяленняў у самых аддаленых раёнах Усходняй Сібіры, 17 творчых калектываў. Праводзім самыя розныя вечары, конкурсы, фестывалі, разам святкуем Каляды, Купалле, Дзяды, Гуканне вясны. Выдаецца штомесячная бюлетэнь-газета "Маланка", якой нядаўна выйшаў соты нумар.

У канцы мая ў Іркуцку прайшоў VI Абласны фестываль-конкурс "Гучы, гоман беларускі!". Першы яго этап быў конкурсны, а другі праходзіў у Тэатры юнага гледача ў фармаце так званай "Свабоднай сцэны". Дыпломы і прэміі, у тым ліку грашовыя, атрымалі дзякуючы спонсару, будаўнічай арганізацыі "Сіброса" (генеральны дырэктар Яўген Кузняцоў), усе ўдзельнікі. Сярод калектываў вызначыліся "Дзіва-дзіўнае" (Іркуцк), "Сяброўкі" (Свірск), "Рушнічок" (вёска Сулкет Куйтукскага раёна), сярод індывідуальных выканаўцаў — Вера Шчапёткіна (Іркуцк), Наталля Барадзейка (Чарчэт), Віка Пракоп'ева (Свірск).

У нашым таварыстве цяпер каля тысячы сяброў. Але гэта толькі два працэнты ад агульнай колькасці беларусаў, якія пражываюць у Прыбайкаллі і Забайкаллі. Што перашкаджае нацыянальнай самаідэнтыфікацыі стаяць? Бадай, такія рысы як "хатні кансерватызм" і недасведчанасць. Часта можна пачуць: "Які ж я беларус, калі нарадзіўся ў Сібіры?" Але сярод так званых аматарскіх нацыянальных арганізацый мы ўсё ж лічымся, побач з украінцамі, татарамі і чувашамі, самымі актыўнымі. Іншыя суполкі, скажам, літоўцы, палякі, куды меншыя за нас, атрымоўваюць ад сваіх консульстваў, якія ёсць у Іркуцку, значную матэрыяльную дапамогу. У нас няма ні консульства, ні дапамогі, але затое ёсць згуртаванасць, імпэт.

Хачу прыгадаць, што асноўная маса беларусаў Прыбайкалля і Забайкалля, як і іншых абласцей Сібіры, перасялілася сюды сто год назад — у выніку Сталыпінскай рэформы. Рабілі гэта арганізавана, цэлымі вёскамі, якія захаваліся сярод таёжных прастораў да сёння. Мы спадзяемся, што да гэтага юбілею будуць арганізаваны навуковыя канферэнцыі і святы — як у Сібіры, так і ў Беларусі.

**Алег Рудакоў,**
старшыня Іркуцкага таварыства беларускай культуры

# Агульны клопат

Я прысутнічаў на з'ездзе ў якасці госця, як старшыня Беларускага таварыства Вялікабрытаніі, у ім цяпер крыху больш за 40 чалавек. Прыехала ў Мінску і Алена Міхалюк — яна вітала з'езд як старшыня Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Гэта было месца прыемных сустрэч. Я, у прыватнасці, пагаварыў з калегам Янкам Запруднікам, мы з ім апошні раз бачыліся гадоў 30 таму ў Нью-Ёрку, калі я працаваў у школе славістыкі Лонданскага універсітэта.

З'езд — добрая нагода для наладжвання кантактаў. У прыватнасці, я ўжо вяду перамовы з музыказнаўцам Гуляевым наконт выдання ў Беларусі музычнай спадчыны Гая дэ Пікарды — і твораў, напісаных ім, і унікальных дакументаў. Іх трэба найперш прывесці ў парадак. Спадзяюся, архіў захоўваецца ў бібліятэцы імя Францыска Скарыны ў Лондане, хоць я ў тым не ўпэўнены. Цяпер, дарэчы, сама бібліятэка, у якой каля 35 тысяч адзінак захоўвання, знаходзіцца ў надзейных руках айца Аляксандра Надсана. Беларускія даследчыкі маюць магчымасць у ёй працаваць, ёсць і сайт бібліятэкі ў Інтэрнэце. А вось пра будучыню кнігазбору думаю, варта клапаціцца сёння. Адна з цікавых ідэй — зрабіць яе філіялам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

**Джым Дынглі,**
прафесар



Джым Джынглі — госць з Вялікабрытаніі



# Гомель бярэ ініцыятыву на сябе

**Наталля Цітушкіна**

**"Гомельавія" звяжа прамымі авіярэйсамі абласныя цэнтры Беларусі з Масквой**

Апошнім часам у Маскву рэгулярна накіроўваюцца самалёты з Гомеля і Віцебска. Зараз жа распрацоўваецца маршрут, які прадугледжвае прамую сувязь усіх абласных цэнтраў Беларусі з расійскай сталіцай. Па словах намесніка дырэктара гомельскай авіякампаніі Ігара Захаранкі, жыхары і госці Беларусі змогуць дабрацца да Масквы за лічаныя гадзіны і за адносна невысокую плату.

Дарэчы, "Гомельавія" з мая мінулага года арганізуе рэгулярныя пасажырскія авіярэйсы з усіх абласных аэрапортаў Беларусі ў Калінінград. Схема палётаў будуецца наступным чынам: самалёт з Гомеля праз Мінск накіроўваецца ў Калінінград, адкуль ляціць у адзін з абласных цэнтраў Беларусі і вяртаецца назад ў расійскі горад, а затым адтуль ізноў праз мінскі аэрапорт ляціць на Гомель. З Калінінграда самалёт лятае ў Гродна па панядзелках, серадах і пятніцах, у Брэст — па аўторках, у Віцебск — па нядзелях.

# Вяртанне на зямлю маладосці

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)**

Ніна Факанава — удава легендарнага генерала Якава Факанава, імем якога названа вуліца ў Жлобіне. Таму, дарэчы, госці наведвалі і гэты горад, дзе ўсклалі кветкі да абеліскаў, ушанавалі памяць загінулых на вайне. У чэрвені 41-га Ніна Аляксееўна, тады студэнтка Саратаўскага мединстытута, добраахвотніцай пайшла на фронт. Эшалон з Саратава ўжо 1 ліпеня 1941 года прыбыў у Гомель, у будынку педінстытута быў разгорнуты шпіталь. Потым была цяжкая праца ў ім, акружэнне і выхад да сваіх пад Рэчыцай, баі за Калугу, за Сталінград і франтавыя дарогі да Дняпра. Пасля вызвалення Польшчы корпус Якава Факанава накіравалі на Кубань. Там у 46-м Ніна Аляксееўна выйшла замуж за генерал-лейтэнанта Факанава. Нарадзіла дваіх дзяцей. Пражылі яны разам з мужам 44 гады ў поўнай згодзе.


КАНСТАНЦІН ДРОБАЎ

Ўдзельнікі вайны ахвотна дзяліліся ўспамінамі

Сафіі Домант хутка 84 гады, яна родам з вёскі Карумны Дубровенскага раёна Віцебшчыны. На яе вачах фашысты ўжо 13 ліпеня 1941 года займалі вёску, рабавалі людзей і здзекаваліся з іх. І ёй дома заставацца было нельга: маладых вывозілі ў Германію. Пайшла ў лагер да партызан, стала радавой 6-га атрады Смаленскага палка асобага прызначэння імя І.Садчыкава. Стаяла на варце, прымала ўдзел у аперацыях, хадзіла ў дазор, дапамагала раненым, кашаварыла на кухні... Сафія Цімафееўна кажа: "Я ўдзячна партызанам за тое, што ў атрадзе мяне навучылі змагацца з ворагам, жыць, вучыцца і быць чалавекам, адданым Радзіме. Мне ніколі пра гэта не забыць." Зімой 43-га яна цяжка захварэла ў ліку іншых хворых і раненых яе правялі ў тыл і адправілі ў Сібір, у Томск. Там яна і жыла, пасля вайны выйшла замуж за франтавіка, сібірака, а пасля яго смерці пераехала ў Новасібірск. Узнагароджана ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені, мае медалі і Ганаровы знак "Беларускі партызан". Цяпер Сафія Цімафееўна ўзначальвае клуб франтавых сустрэч "Сібірачка", які праводзіць вялікую работу сярод моладзі і ветэранаў. "Вайна — гэта мая маладосць, яна навучыла мяне любіць жыццё, даражыць малым, верыць у лепшае", — шчыра прызналася ветэранка на сустрэчы з мінскай моладдзю. Дарэчы, у красавіку 2005 года берлінская маладзёжная арганізацыя "Хелле Панке" запрасіла Сафію Цімафееўну на кангрэс, прысвечаны вызваленню краіны ад фашызма. Права адкрыць гэты форум было даверана нашай зямлячцы.

Мне пашчасціла быць з гэтымі вельмі прыгожымі людзі побач падчас іх гасцявання ў Беларусі. І, прызнаюся, глядзела на іх, слухала іх успаміны з захапленнем. Думаю, і маладзейшым варта было б павучыцца ад іх таму, як, прайшоўшы праз усе выпрабаванні лёсу, не страціць аптымізму і любові да жыцця. На развітанне мае дарагія госці папрасілі "ад шчырых ветэранскіх сэрцаў" звярнуцца да ўсіх жыхароў Расіі і Беларусі з такім наказам: "Не дапусціце паўтарэння крывавай вайны, якая не мілавала ні дзяцей, ні жанчын, ні старых. Беражыце Расію і Беларусь — унікальныя славянскія народы-браты. Наша просьба да маладых: абкружыце клопатам і павагаю ветэранаў — яны таго вартыя".

**Галіна Навіцкая,**
каардынатар праектаў таварыства "Радзіма"

ФЭСТ

# Рэха Грунвальда

## У Дудутках рыцары згадвалі адну з самых вялікіх бітваў сярэднявечча

Яўген Зубовіч

Рыцарскі фэст, які ладзіўся на тэрыторыі этнаграфічнага комплекса "Дудуткі" пад Мінскам, меў назву "Наш Грунвальд" і прысвячаўся векапомнай падзеі. Як вядома, адбылася яна ў 1410 годзе ля мястэчка Грунвальд (цяпер тэрыторыя Польшчы), перамога ў бітве дазволіла надоўга спыніць крыжацкую агрэсію на беларускія землі. Так, ліпеньскімі днямі праводзіўся і польскі Грунвальдскі фэст, аднак смелых рыцараў ды іх прыгожых дам шмат было і ў Дудутках. Яны прадстаўлялі клубы "Секерж", "Белы тур", "Ордэн паўночнага храма", "Алтын Тумен", "Княжы гуф" і іншыя. Спачатку прайшлі адзіночныя баі паміж віцязямі. У фінал выйшлі рыцары Святаслаў і магутны і непераможны Ціхамір Камянецкі, абодва з клуба "Русіч". І тут атрымалася цікавая гісторыя. Гледачы ўжо гатовы былі назіраць за лютай сечай, як раптам абодва рыцары ва ўсходніх даспехах, гэтак званых маскоўскіх зярцалах, паскідалі з сябе шаломы-шышакі, адшпурнулі ў бок мячы і... пачалі абдымацца. Гэта Ціхамір, пераможца 27 турніраў, вырашыў па-сяброўску аддаць перамогу праціўніку ў гонар прысутнай тут маці Святаслава. Рыцарскі ўчынак!

Пасля турніру хтосьці адпачываў, а нехта аглядаў майстэрні гарбароў, ганчароў, кавалёў, невялікі музей машын, а таксама горад майстроў, дзе можна набыць сувеніры. На сцэне тым часам дзяўчаты з гурта "Расалія" спявалі сярэднявечныя песні. Потым выступалі акцёры "Тэатра Берсерк" і "Камандорыі Ордэна паўночнага храма". Дзея праходзіла ў форме спаборніцтва, якое нагадвала тэатралізаваныя бойкі з адмысловым сюжэтам.

І вось да плота-перагароджы ўжо збіраюцца рыцары-вершнікі на конны турнір. Усяго ў ім удзельнічала 6 чалавек, перамогу атрымаў рыцар Поль Дэрб'ен. Турнір быў вельмі відовішчным.



Сучасныя рыцары перанесліся ў мінулае, узгадаўшы, як стагоддзі таму змагаліся ў паядынках

Пасля паўзы пачалася рэканструкцыя Грунвальдскай сечы, у якой, кажуць, удзельнічала больш за 60 тысяч вояроў. Як і амаль 600 гадоў таму, войскі доўга не пачыналі, і вось пасланец крыжакоў кінуў пад ногі аднаму з кіраўнікоў аб'яднанага войска ВКЛ і Польшчы князю Вітаўту два мячы: афіцыйны выклік зроблены. І пачалася сеча. У яе ўступіла і польскае рыцарства, але хутка было абкружана, і толькі тылавы ўдар Вітаўта выратаваў і пераламіў ход бітвы. Перамога!

Так скончылася баявая частка першага дня, а ў музычнай зноў прыгожа гралі валынкі, лютні, дуды і скрыпкі. На другі ж дзень было шмат іншых спаборніцтваў: турніры лучнікаў, масавыя бойкі рыцарскіх клубаў (бугурты), паказ і конкурс гістарычных касцюмаў XI-XV стагоддзяў, дэманстравалі сваё майстэрства дзяўчаты-вершніцы на конях са стайні ў Дудутках.

Між іншым, рыцарам у летнюю спёку змагацца было вельмі цяжка: акрамя ватаванай вопраткі, што амартызуе ўдар, на кожным пад 20 і больш кілаграмаў рыштунку. Завяршала баявую частку фестывалю спаборніцтва на імправізаваным мосце, дзе ўпэўненую перамогу над крыжакамі (пасля лёгкай сутычкі завадатараў з абодвух бакоў, Гедзіміна і рыцара Франсуа) атрымалі сілы ВКЛ. Закончыўся першы фестываль славы беларускай зброі вялікім канцэртам з удзелам гуртоў Кейлі Кёл, Пераплуты, Cornu Copia. Стары Ольса і Літвінтроль.

# Жывая памяць

## Анатоль Грамыка, сын міністра замежных спраў СССР Андрэя Грамыка, высока ацаніў экспазіцыю, прысвечаную 100-гадоваму юбілею з дня нараджэння знакамітага дыпламата

Мілена Ануфрыёнак

"Людзі жывуць сярод нас да той пары, пакуль аб іх памятаюць. І нам як сваякам Андрэя Грамыка вельмі прыемна, што ў Беларусі шануюць яго памяць. Гэта значыць, што ён будзе доўга жыць у думках і сэрцах людзей", — сказаў Анатоль Грамыка.

Тэматычная выстава дакументаў, прысвечаная Андрэю Грамыку, адкрылася ў цэнтры гісторыі Міністэрства замежных спраў і беларускай дыпламатычнай службы. Экспазіцыя ўтрымлівае шмат фатаграфій, архіўных дакументаў, публікацый аб дзейнасці легендарнага дыпламата. Напрыклад, тут можна ўбачыць указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прызначэннях Андрэя Грамыкі на дзяржаўныя пасады, фотакопію подпісаў дэлегацыі Савецкага Саюза пад Статутам ААН, пратакол работы Крымскай канферэнцыі. Напэўна зацікавіць наведвальнікаў выставы і копія ліста каралевы Лізаветы, у якім яна звяртаецца да савецкага дыпламата са словамі "Дарогі сябар".

Анатоль Грамыка асобна адзначыў прадстаўленыя кнігі і публікацыі пра яго бацьку, у прыватнасці, зборнік успамінаў "Лепш 10 гадоў перагавораў, чым адзін дзень вайны". "Дзякуй за гэтую экспазіцыю", — сказаў ён.


Беларусь для Грамыкі-малодшага — бацькоўская зямля

Мерапрыемствы з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння Андрэя Грамыкі праводзіліся Міністэрствам замежных спраў Беларусі і Пастаянным камітэтам Саюзнай дзяржавы сумесна з інфармацыйным партнёрам — выдавецтвам "Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі". У іх прымалі ўдзел прадстаўнікі МЗС Расійскай Федэрацыі, таварыства "Асацыяцыя расійскіх дыпламатаў", сваякі Андрэя Грамыкі.

Андрэй Андрэевіч Грамыка нарадзіўся 18 ліпеня 1909 года на Гомельшчыне, у вёсцы Старыя Грамыкі Веткаўскага раёна. Пасля заканчэння сямігодкі вучыўся ў прафтэхшколе ў Гомелі, затым у Барысаўскім тэхнікуме, Мінскім эканамічным інстытуце, закончыў аспірантуру Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута эканомікі сельскай гаспадаркі ў Маскве, стаў кандыдатам эканамічных навук.

Імклівы ўзлёт кар'еры палітыка і дыпламата адбыўся ў 1939 годзе. Больш за 50 гадоў Андрэй Андрэевіч працаваў на дзяржаўных і дыпламатычных пастах, з іх 28 — міністрам замежных спраў СССР. У 1944 годзе ўзначальваў савецкую дэлегацыю на канферэнцыі ў г.Думбартан-Аксэ (ЗША) па стварэнні ААН і яго подпіс стаіць пад установчымі дакументамі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У 1985–1988 гадах быў старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

# Адлегласць — не перашкода

**Медыцынскі універсітэт з беларускага горада Віцебска і аргенцінскі медыцынскі універсітэт Майманідэс у Буэнас-Айрэсе падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве.**

Падпісанне пагаднення з адным з найбольш буйных і прэстыжных медыцынскіх універсітэтаў Аргенціны стала чарговым крокам па ўмацаванні беларуска-аргенцінскіх навуковых і адукацыйных кантактаў. Прадстаўнікі універсітэтаў абмеркавалі магчымасць стажыроўкі беларускіх і аргенцінскіх спецыялістаў. Кіраўніцтва ўніверсітэта Майманідэс пацвердзіла ўдзел сваёй дэлегацыі ў V юбілейнай Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Медыцынская адукацыя XXI стагоддзя", якая пройдзе ў лістападзе 2009 года ў Віцебску.

# Сцэнарый пішуць дзеці

Дзіяна Курыла

**Юныя мультыплікатары з латвійскага горада Лудза і беларускага райцэнтра Глыбокае ствараюць сумесны анімацыйны фільм**

У гэтай ўдзельнічаюць па 10 юных мастакоў. Дзеці вырашылі стварыць мультфільм, які раскажа пра фальклорныя традыцыі беларускага і латышскага народаў.

На працягу некалькіх месяцаў будучыя мультыплікатары вывучалі абрады і звычаі сваіх суседзяў: глыбоцкія дзеці гасцявалі ў Лудзе, а латвійскія — у Глыбокім. Сцэнарый мульціка дзеці ўжо прыдумалі, у яго аснове ляжыць вандраванне Несцеркі.

Цяпер у Івесі, невялікай вёсачцы ў Глыбокскім раёне, мастакі робяць эскізы да фільма. Потым глыбаччане адправяцца ў Лудзу, каб працягнуць работу над фільмам ужо ў студыйных умовах, з дапамогай сучасных камп'ютэрных праграм. А ў наступным годзе на міжнародным кінафестывалі "Магніфікат" у Глыбокім запланаваны паказ фільма ў намінацыі "Анімацыйнае кіно".

Сумесны беларуска-латвійскі праект мае навукова абгрунтаваную назву: "Візуалізацыя латышскага і беларускага фальклору ў фарміраванні трансмежнага мастацкага маста". Але такая "дарослая" назва праекта не перашкаджае дзецям захоўваць сваю непасрэднасць у зносінах і вызначаць шчырае жаданне зразумець звычаі і традыцыі суседняга народа, расказаць аб іх мовай анімацыі.

# Прыцягненне родных мясцін

## У вёсцы Перабродззе Міёрскага раёна Віцебшчыны прайшоў фестываль беларускай песні і народнай творчасці

Яніна Васілеўская

Гэта — толькі адно з мерапрыемстваў у рамках праекта Еўрарэгіёна "Азёрны край". У ім прынялі ўдзел беларускія вакальныя калектывы з Даўгаўпілса «Купалінка» і «Ластаўкі» (кіраўнік. Таццяна Піменава), салісты Аляксандр Лапа і Вікторыя Сяліцкая, танцавальны гурт «Лянок» (кіраўнік Вера Кохан) і беларускі тэатр Цэнтра беларускай культуры. Яны выканалі беларускія народныя песні, а таксама песні на вершы даўгаўпілскіх аўтараў Аляксандра Рудзя, Таццяны Піменавай і Станіслава Валодзькі. Танцавалі беларускі народны танец «Бульбачка» і паказвалі ўрыўкі з п'есы Міхася Чарота «Мікітаў лапаць». Паэт Станіслаў Валодзька прачытаў свае вершы. Вёў канцэрт старшыня беларускага таварыства «Уздым» Барыс Іваноў, які, дарэчы, з'яўляецца ўраджэнцам Перабродззя. Цікава адзначыць, што ў салісткі Вікторыі Сяліцкай у гэтай вёсцы і цяпер жыве дзядуля, а саліст Аляксандр Лапа родам з суседняй вёскі.

Прыемнай была сустрэча з народным ансамблем беларускай песні з Магілёўшчыны «Жытніца». Між іншым, у сваёй канцэртнай праграме гурт выканаў таксама песню «Талака» на словы Станіслава Валодзькі.

Асабліва святочным настрой у жыхароў Перабродззя быў яшчэ і таму, што нядаўна Прэзідэнтам Беларусі падпісаны указ аб прысваенні гэтай вёсцы ўласнага герба і сцяга. Вялікую ролю ў гэтым адыграў той гістарычны факт, што ў свой час Перабродззе мела Магдэбургскае права.


На фестывалі — рамяство і песня побач

# Там, дзе спяваюць птушкі

Вольга Бяляўская

### Арнітолагі склалі "Салаўіную карту Мінска — 2009"

Карта складзена па выніках акцыі "Салаўіныя ночы". На ёй адзначана 261 кропка лакалізацыі салаўёў у Мінску. "Найболей абследаванай і "салаўінай" аказалася паўднёвая частка горада, — расказаў спецыяліст грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" Руслан Шайкін. — Шмат салаўёў адзначана ў пойме Свіслачы ў Шабанах, у нізіне каля вуліцы Асаналіева, у Цэнтральным батанічным садзе". У той жа час у параўнанні з папярэднімі гадамі значна менш салаўёў стала ў Лошыцкім парку.

Самая буйная пляцоўка па назіраннямі за салаўямі працавала ў Мінску ў Цэнтральным батанічным садзе. Тут можна было паслухаць спевы салаўёў і паназіраць за птушкамі з дапамогай аптычных прыбораў. На салаўінай пляцоўцы пабывалі больш за паўтары тысячы мінчан і гасцей сталіцы. У назіраннях прынялі ўдзел экскурсійныя групы з Гродна, Баранавічаў, Лунінца.

# На мове пачуццяў і эмоцый

Наталля Цітушкіна

**Больш за шэсцьдзесят іконаў, якія знаходзіліся на тэрыторыі Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай абласцей у XVIII-XX стагоддзях, упершыню прадстаўлены ў дзяржаўнай выставачнай зале "Галерэя "Беляева" Паўднёва-Заходняй аўтаномнай акрузе горада Масквы.**

Выставу "Народная ікона Гомельшчыны" з музейных фондаў Гомельскага палаца Румянцавых-Паскевічаў дапаўняюць прадметы этнаграфіі. Ручнікі, народныя касцюмы ўзнаўляюць тое асяроддзе, у якой ікона існавала і з чым была непарыўна звязана.

Трэба адзначыць, што калекцыя іканапісу ў гомельскім палацы фарміравалася на працягу мінулага стагоддзя. Прычым найболей актыўнае яе папаўненне прыходзіцца на 1980–90-е гады, калі прыйшло ўсведамленне каштоўнасці падобнага роду культавых прадметаў у кантэксце культурнай спадчыны.

Народная ікона была шырока распаўсюджана на Гомельшчыне ў XVIII — пачатку XX стагоддзяў. У адрозненні ад кананічнага, падобнага роду іопапіс больш дэмакратычны як у сюжэтах, так і ў выкананні. Малюнак выконваўся алейнымі фарбамі адразу ж па дошцы, без папярэдняй грунтоўкі. Упадабаны прыём дэкарыравання — раслінны арнамент. Абстрактныя выявы Богамаці, Ісуса Хрыста, святых атрымлівалі падабенства з пэўнымі людзьмі, казалі на мове чалавечых пачуццяў і эмоцый. Гэта вызначыла запатрабаванасць і папулярнасць народнай іконы.

ВОЛЬНЫ ЧАС

# Пад гукі чароўнага вальса

"А цяпер — вальс! На гэты раз дамы запрашаюць кавалераў!" Бадзёры голас раптоўна перапыніў мае летуценні, калі я бліжэй да вечара прагульвалася па адным з мінскіх паркаў. Пры танцпляцоўцы, падышоўшы, прачытала аб'яву: "Дыскатэка для тых, каму за 60". Цікава, а ці пусцяць сюды студэнтку? Набываю білет і... без перашкод трапляю на вечарынку


Юлія Логвінава
Узрост — не перашкода для тых, хто адчувае радасць жыцця

Юлія Логвінава

Аднаго погляду на танц-пол дастаткова, каб прыўзняўся настрой. Каля трох соцен мужчын і жанчын паважанага ўзросту грацыёзна рухаюцца пад гукі вальса. І гэта ў гарачыню, калі на тэрмометры пад трыццаць! Я па-добраму пазайздросціла вытрымцы пенсіянераў, але пайсці ў вальс не паспела: трэба ж агледзіцца. На наступны танец, больш дынамічны, здолела запрасіць "мужчыну за 60" з вайсковай выпраўкай. А меліся ж і канкурэнткі…

Калі музыка заціхла, я пацікавілася ў свайго кавалера, хто ён і адкуль. Падпалкоўнік ваенна-паветраных сіл у адстаўцы Уладзімір Мікалаевіч Шарсцнёў аказаўся выхадцам з Расіі, з Урала. Ахвотна расказаў, што пасля заканчэння ваеннай Акадэміі ў родным Кіраве (былая Вятка) служыў у розных месцах усяго СССР, меў дачыненне нават да першага касмічнага палёту. Але найчасцей лёс закідваў інжынера-тэхніка ў Беларусь. І жонкай абраў мінчанку, а ў 85-м афіцэр з сям'ёй канчаткова перабраўся сюды на жыхарства. Між іншым, тады многія вайскоўцы, калі мелі магчымасць, пад пенсію "асядалі" ў Беларусі. Потым жонкі не стала, ветэран жыве адзін. Але самотным сябе не адчувае: і дачка з сям'ёй не даюць сумаваць, і сам прывык жыць актыўна. Кожную зіму, напрыклад, катаецца на лыжах, у сезон любіць паблукаць па лесе, назбіраць грыбоў і ягад. Вельмі да душы яму, прызнаецца, і такія вечарыны.

"Я пастаянна наведваю падобныя мерапрыемствы, разы два на месяц. Улетку мы збіраемся тут, у парку Чалюскінцаў. Паветра свежае, добрыя эмоцыі, ды і людзі неблагія. А што яшчэ трэба для вытатнага самаадчування?!" — усміхнуўся Уладзімір Мікалаевіч. Зімой ён любіць бываць у Доме ветэранаў ці ў Палацы культуры чыгуначнікаў. Увогуле ж, лічыць, у Мінску хапае месцаў, дзе чалавек сталага ўзросту можа прыемна правесці час, сустрэцца з сябрамі і знаёмымі.

Потым мой кавалер хутка і лёгка, як быццам яму і не семдзесят сем, а якіх трыццаць, пакрочыў да Дома Кіно: там ён пакінуў унука глядзець чарговую серыю "Гарры Потэра". А я засталася каля танцпляцоўкі з нейкім светлым пачуццём. Думалася: як усё ж добра, калі людзі ва ўзросце застаюцца такімі непасрэднымі, адкрытымі — маладымі! Менавіта маладосць душы, мусіць, кліча жанчын, якім "за 60", кожную суботу і нядзелю даставаць з шафаў святочныя сукенкі, прыхарошвацца і спяшацца а шаснаццатай гадзіне на танцы. А мужчыны тым часам паглядваць на гадзіннікі, чакаючы сваіх дам. І потым, пад гукі мелодый, яны разам плывуць у танцах…

# Магчымасць пазнаёміць з культурнай спадчынай

Дар'я Пятровіч

### Беларусь прыме міжнародны сімпозіум вучоных-музыказнаўцаў

На сімпозіуме, які запланаваны на жнівень, збяруцца вучоныя-музыказнаўцы з 14 краін: Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Германіі, Італіі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Францыі, Аўстрыі, Швейцарыі, Ізраіля, ЗША. Беларуская музыказнаўцы ўпершыню прымуць удзел у такім форуме. У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пройдуць круглыя сталы, прысвечаныя развіццю сучаснай музычнай культуры, актуальным праблемам захавання і вывучэння культурнай спадчыны кожнай з гэтых краін. Асобныя секцыі будуць прысвечаны жыццю і творчасці вялікіх кампазітараў XX стагоддзя Ігара Стравінскага і Дзмітрыя Шастаковіча. Мэтай сімпозіума з'яўляецца абмеркаванне актуальных праблем і тэндэнцый развіцця ў сферы сучаснай музычнай навукі, аналіз навуковых падыходаў да вывучэння музычнай культуры з пункта гледжання этнамузыказнаўства.

На правах гаспадыні форума Беларусь мае магчымасць пазнаёміць замежных калегаў са сваёй культурнай спадчынай. Удзельнікі канферэнцыі ўбачаць фільмы пра станаўленне і развіццё беларускай культуры.

Заснавальнік: Рэдакцыя газеты «СБ»
Рэдактар: Віктар Харкоў
Адрас: пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61
Тэлефон рэдакцыі: +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
Бюро па рэкламе: Тэл. +375 17 290—60—11
E—mail: golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
Аб'ём выдання: 1 друк. арк.
Тыраж: 2000
Заказ: 867